

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 41 (580)** **23 КАСТРЫЧНІКА 2002 г.**


## МІЖНАРОДНЫ ДАБРАЧЫННЫ ПРАЕКТ АСАЦЫЯЦЫІ "МАЙСТАР"

Міжнароднае грамадскае аб'яднанне мастакоў і мастацтвазнаўцаў "МАЙСТАР" з 5 па 15 верасня 2002 г. у Палацы мастацтваў у г. Менску



**Адкрыццё выставы 5 верасня 2002 г.**

арганізавала і правяло II Міжнародную дабрачынную выставу "МАЙСТАР". Як адзначыў у сваёй прамове на вернісажы мастацтвазнаўца Сяргей Папоў, навуковы супрацоўнік Трацякоўскай галярэі, такая выстава неардынарная з'ява не толькі для беларускай, але ж і для расійскай культуры.

У выставе прымалі ўдзел 27 мастакоў з шасці краінаў (Беларусь, Расія, ЗША, Польшча. Літва, Балгарыя). На выставу прыехалі мастакі з ЗША, Расіі і Літвы, сярод якіх вядомы амерыканскі мастак Крыстафер Навіцкі, продкі якога нарадзіліся ў Ашмянах Гарадзенскай губерні. Прывёз ён і цікавыя дакументы аб паходжанні свайго роду (копіі метрычнай выпіскі з кнігі Жупранскага Рымска-каталіцкага прыходскага касцёла аб шлюбе дваараніна Вячаслава Радзевіча і дваранкі Кацярыны Заблоцкай ад дваццаць пятага чэрвеня 1895 г., а таксама Алфавітны спіс дваран Віленскай губерні Ашмянскага павету з указаннем дваараніна Вікенція Радзевіча і іншыя). У наступным годзе Крыстафер Навіцкі плануе правесці персанальную выставу на радзіме сваіх продкаў супольна з вядомым польскім мастаком Яўнеюшам Гетам Станкевічам, які нарадзіўся у 1942 г. у г. Ашмянах.

11 верасня ў межах выставы "МАЙСТАР" адбыўся канцэрт джазавай, рок і блюз музыкі, прысвечаны памяці ахвяр трагедыі, якая адбылася 11 верасня 2001 г. у г. Нью-Ёрку і г. Вашынгтоне. Удзельнікі канцэрта: "Князь Мышкін", "Мадэра Хард Блюз", "Новыя Джазеры". На канцэрце прысутнічалі Часовы Паверана ў справах США ў Рэспубліцы Беларусь Кэрын Сцюарт, Аташэ па пытаннях інфармацыі, адукацыі і культуры ЗША Дайэн Макдональд, а таксама прадстаўнікі Пасольстваў і Прадстаўніцтваў іншых краін, акрэдытаваных у Рэспубліцы Беларусь.

У гэты ж дзень Асацыяцыя "МАЙСТАР" адчыніла ў Палацы мастацтваў дабрачынную выставу, на якой былі прадстаўлены творы мастакоў, перадаўшых на той час свае работы для аукцыёну, які плануецца правесці ў г. Нью-Ёрку ў 2003 г. Сродкі ад продажу карцін будуць



**Група "Князь Мышкін" 11 верасня 2002 г.**

перададзены беларускім дзецям, якіх будзе аперыраваць амерыканскі кардыёхірург Вільям Новік (г. Мемфіс штат Тэнесі) і ў фонд г. Нью-Ёрка дзецям, бацькі якіх загінулі пад час трагічных падзеяў 11 верасня 2001 г. у г. Нью-Ёрку і г. Вашынгтоне. Пад час адкрыцця выставы Прэзідэнт Асацыяцыі Сяргей Крыштаповіч звярнуўся з заклікам да беларускіх мастакоў і студэнтаў мастацкіх ВНУ падтрымаць гэтую дабрачынную акцыю.

З такой жа прапановай сп. Крыштаповіч выступіў і на Радзе Беларускага Саюза мастакоў, дзе яго падтрымаў не толькі Старшыня БСМ сп. В. Басалыга, але і ўсе мастакі аб'яднання.

Гэта ўжо не першая дабрачынная сумесная акцыя Асацыяцыі "Майстар" з іншымі творчымі суполкамі. У студзені 2002 г. мастакі аб'яднання "Майстар" сумесна з суполкай "Няміга" і Беларускім Саюзам мастакоў, сярод якіх былі Сяргей Крыштаповіч і Віктар Сахно, Сяргей Кірушчанка і Зоя Літвінава. Зоя Луцэвіч і Андрэй Басалыга дый і іншыя падарылі свае карціны Міжнароднаму Фонду "Дзіцячае Сэрца". І, як нам паведаміла каардынатар Міжнароднага Фонду Крысці Рыплі, на пачатку лістапада ў г. Нью-Ёрку адбудзецца аўкцыён работ беларускіх майстроў, сродкі ад якога пайдуць на аперацыі беларускім дзецям.

На пачатку снежня 2002 г. амерыканскі кардыёхірург Вільям Новік прыедзе ў Беларусь, каб у чарговы раз зрабіць аперацыі беларускім дзецям.

Па папярэдняй дамоўленасці са Старшынём БСМ Уладзімірам Басалыгам Асацыяцыя "Майстар" разам з мастакамі Беларускага саюза мастакоў наладзіць аднадзённую выставу ў Палацы мастацтваў, дзе будуць выстаўлены творы мастакоў, якія ахвяруюць свае работы дзецям.

Гэты праект дасць магчымасць зрабіць нашых дзяцей здаровымі і будзе чарговым крокам па збліжэнні і ўзаемаразуменні культур розных народаў.

***Мастацтвазнаўца Асацыяцыі "МАЙСТАР" Ала Нароўская.***

**ЗВАРОТ САКРАТАРЫЯТУ ТБМ**

## *Адновім беларускі музей Івана Луцкевіча*

7 кастрычніка 2002 г. Камітэт Сойма Літоўскай Рэспублікі па асвеце, навуцы і культуры прыняў гістарычнае рашэнне аб аднаўленні ў Вільні беларускага музея Івана Луцкевіча як філіяла Літоўскага нацыянальнага музея.

**ТБМ вітае гэты крок, накіраваны на пашырэнне культурна-асветніцкіх сувязяў паміж беларускім і літоўскім народамі, якія заўжды сябравалі і маюць супольную спадчыну.**

Мы спадзяёмся, што Міністэрства замежных справаў і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь станоўча адгукнуцца на гэтую ініцыятыву літоўскіх парламентароў і дапамогуць аднавіць адзін з лепшых беларускіх музеяў першай паловы XX стагоддзя.

Мы звяртаемся да творчых саюзаў Беларусі, прадстаўнікоў шырокай грамадскасці падтрымаць Таварыства беларускай культуры ў Літве, ініцыятара ідэі адраджэння Беларускага музея ў Вільні, і перадаць экспанаты са сваіх фондаў і асабістых калекцый у экспазіцыю будучага музея.

**Сакратарыят ТБМ**
**17 кастрычніка 2002г.**

## Другія Гашкевічаўскія чытанні

9-10 кастрычніка ў Менску і Астраўцы прайшлі Другія Міжнародныя гістарычна-краязнаўчыя і літаратурныя чытанні, прысвечаныя памяці выдатнага вучонага асветніка, пісьменніка, падарожніка, першага консула Расійскай Імперыі ў Японіі, ураджэнца і жыхара Беларусі Іосіфа Гашкевіча (1815-1875). Падчас чытанняў на радзіме Іосіфа Гашкевіча ў вёсцы Малі Астравецкага раёна быў адкрыты памятны знак работы вядомага лідскага скульптара **Рычарда Грушы**.

Чытанні сабралі надзвычай шырокую і прадстаўнічую аўдыторыю. Дастаткова сказаць, што толькі з японскага боку ў іх удзельнічала шэсць чалавек. Сярод іх - **Такада Касічы**, грамадскі дзеяч, нашчадак у сёмым калене Такатая Кахі, які першым пачаў устанаўліваць грамадзянскую дыпламатыю паміж Японіяй і Расіяй, арганізатар і ўладальнік музея ў г. Хакадатэ, у якім устаноўлены бюст І. Гашкевіча; **Джун-Ічы Сато**, прафесар Такійскага ўніверсітэта, кіраўнік Суполкі беларусістаў Японіі; **Касіна Го**, аташэ па культуры Пасольства Японіі ў Беларусі.

У чытаннях прынялі ўдзел навукоўцы і літаратары не толькі з Беларусі, але і з Расіі, Літвы, ЗША. Было зачытана каля 50 дакладаў і спавешчанняў.

У адным з бліжэйшых нумароў мы спадзяёмся падаць грунтоўнае спавешчанне з чытанняў і, магчыма, некаторыя матэрыялы.



**Падчас адкрыцця памятнага знака Іосіфу Гашкевічу ў в. Малі Астравецкага раёна. На пярэднім плане сябар рэдкалегіі "Нашага слова" Леакадзія Мілаш (Вільня), скульптар Рычард Груша (Ліда), Такада Касічы (Токіё).**




## Марка ў гонар песняра

У шырокае абарачэнне паступіла паштовая марка, выпушчаная да 120-годдзя народнага пісьменніка Беларусі Якуба Коласа. Намінал маркі - 100 рублёў. На марцы партрэт Якуба Коласа і яго факсімільны подпіс.

## Гэты нумар "Нашага слова" - 250-ы нумар, выдадзены ў Лідзе





# ПРАШУ ЗРАЗУМЕЦЬ МЯНЕ ПРАВІЛЬНА

***Пра гэты ліст у савецкі час неадноўчы гаварылася, як у прыватных размовах, так і ў публічных выступленнях, згадваўся ён і ў друку. Вакол яго хадзіла нямала чутак, ён з цягам часу аброс нават легендамі. Меліся падставы для таго, каб усклікнуць, а ці быў наогул гэты ліст? Ці існуе ён у прыродзе? Адказваем: ліст быў.***

***Якуб Колас (Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч) напісаў яго 25 траўня 1956 года. Па нейкіх прычынах не адразу звярнуўся з ім па адрасу. Толькі 13 жніўня пайшоў раніцою ў ЦК КПБ са сваім лістом. Не змог перадаць яго сакрарару ЦК, да якога меў намер звярнуцца (той быў заняты на пасяджэнні Бюро ЦК), перадаў ліст у аддзел культуры. Трагічная супадзенне? праз некалькі гадзін пасля візіту ў ЦК народнага песняра не стала...***

***На шмат гадоў кануў у небыццё і ліст-запавет Якуба Коласа.***

***У 1990 годзе гэты ліст быў надрукаваны газетай "ЛіМ". Але праз 12 гадоў "Наша слова" лічыць сваім абавязкам паўтарыць публікацыю, бо анічагуткі ж не змянілася.***

У Бюро ЦК КПБ

Дарагія таварышы!

Калі б сіла ўяўлення змагла паказаць мне гадоў 50 таму назад сягонняшні Мінск і ўсю нашу рэспубліку такімі, якімі яны зараз ёсць, гэта здалося б недасяжнаю мараю, няпраўдзівым сном. Я гавару аб тым, што асабліва дорага майму сэрцу, бо на маіх вачах узрос і адужаў беларускі народ, стаў жыць непараўнана лепш, змяніў аблічча свае зямлі. Маладыя людзі ўжо не могуць уявіць сваю краіну без аўтамабіля на вуліцы, без трактара на полі, без велічных гарадоў, без электрычнага святла, усеагульнай граматнасці, без кіно, тэатра. Гэта ўсё – наша праца, клопат Савецкай улады, кіраўніцтва Камуністычнай партыі. Нашы здабыткі – гэта мы самі, савецкія людзі, працавітыя, простыя. З тым большай пільнасцю і дбайнасцю беражом мы сваё шчасце, сваю працу, свае багацці.

Найвялікшым духоўным багаццем народа з'яўляецца яго мова. У мове адлюстроўвалася гісторыя народа, яго працоўнае жыццё, яго барацьба, яго смутак і радасць, яго прырода, яго любоў і гнеў.

Любіць і шанаваць мову нас вучыў вялікі Ленін, выдатныя пісьменнікі, вучоныя, педагогі

Беларуская мова параўнаўча маладая. Хоць і даўно ўжо гаворыць на ёй народ, але як мова навукі, палітыкі, літаратуры яна знаходзіцца ў перыядзе станаўлення. Таму задача савецкай інтэлігенцыі рэспублікі – берагчы мову, вывучаць яе, распрацоўваць і пашыраць. Гэта дасягаецца, па-першае, штодзённым яе ўжываннем у побыце, на рабоце, у дзяржаўных, грамадскіх і культурных установах.

Ці ўсё добра ў нас у гэтых адносінах? Далёка не ўсё. На мой погляд, далейшае развіццё культуры рэспублікі вельмі многа прайгрывае і, скажам проста, стаіць перад сур'ёзнай пагрозаю іменна ад недастатковай увагі да роднай мовы. Установы сталіцы вывелі з абыходку беларускую мову: на ёй не вядзецца перапіска, на ёй не гавораць з наведвальнікамі, у гарадах няма беларускіх шыльд і надпісаў, мала беларускіх афіш і плакатаў. Смешна сказаць, але, праехаўшы Мінск, кавалак Слуцкага шасе на працягу 30 кіламетраў, я не ўбачыў ніводнага беларускага слова. Толькі ў Русінаве на даследчай бульбяной станцыі знайшлося два пачарнелых ад часу надпісы: "Кузьня" і "Сьвіран". Дый то, відаць, яны былі зроблены ў 30-х гадах, да рэформы правапісу, бо пасля мяккіх зычных у іх стаіць мяккі знак. Няўжо ж нашы аўтамабілі, трактары, станкі, тканіны, цукеркі, папяросы сталі б горшымі, каб на іх былі беларуския надпісы. Хай толькі якасць не падводзіць! Бо колькі ні пішы "Казбек" на мінскіх папяросах, усё роўна спажывец патрабуе ленінградскіх. Свіслач рака незайздросная, але калі папяросы з такой назвай будуць самымі лепшымі, дык яны знойдуць попыт ва ўсім Савецкім Саюзе. Чаму ж мы дапускаем: каб беларускія этыкеткі з'яўляліся толькі на дрэнным гуталіне і на не вельмі смачных водах? Гэта ж і мала, і проста крыўдна.

Акадэмія навук якая павінна быць цэнтрам беларускай навукі, не карыстаецца беларускаю моваю не выдае на ёй работ, не праводзіць паседжанняў. Тое, што ў Акадэміі існуюць інстытуты мовы і літаратуры, яшчэ справы не рашае. У нас дасюль не распрацавана беларуская тэрміналогія па ўсіх галінах навукі, а гэта дало б магчымасць пісаць па-беларуску навуковыя працы і выкладаць па-беларуску спецыяльныя дысцыпліны. Няўжо ж навуковая работа, калі яна ўдалая і цікавая, што-небудзь страціць ад таго, што будзе напісана па-беларуску! Наадварот, яе будуць перакладаць і пашыраць на многіх мовах свету, як гэта робіцца з творамі нашых літаратараў. Могуць сказаць, што, стаўшы на такі шлях, распужаеш з Акадэміі вучоных, ураджэнцаў іншых рэспублік, якія не ўладаюць мовай. Не, ніхто не збіраецца саджаць за азбуку паважаных і сур'ёзных людзей. Аднак, жывучы ў Беларусі, і ім бы не грэх навучыцца хоць бы чытаць газету. Большасць жа нашых вучоных – беларусы, і мову яны ведаюць, але ёю не карыстаюцца. У іх адрас і накіраваны гэты папрок. Бо хіба ж можа быць сур'ёзнае развіццё навукі, калі вучоныя не хочуць паважаць мовы народа, на зямлі якога яны працуюць?

Саюзы кампазітараў і мастакоў таксама адмовіліся ад свае мовы. Ну, няхай у іх іншыя сродкі выражэння думак і пачуцця, нямоўные. Аднак, зрабіць уклад ў нацыянальнае мастацтва і музыку, не ведаючы мовы народа, немагчыма. Мова – важнейшый элемент нацыянальнай формы, не ведаючы ее, не карыстаючыся, ні мастак, ні кампазітар не здолеюць аўладаць духоўнымі багаццямі народа.

Беларускую мову можна пачуць у тэатрах і па радыё. Але што гэта за мова? Гэта непрыхаваны здзек над ёю. Артысты і дыктары парушаюць элементарные правілы вымаўлення, пастаноўкі націскаў, мова засмечана мноствам скажоных слоў-калек, няўдала запазычаных з рускай мовы. Адбываецца гэта таму, што артысты, работнікі радыё, журналісты, газетчыкі не карыстаюца мовай ў побыце. Пераклады газетных артыкулаў і матэрыялаў радыё даручаюцца машыністкам і малаграматным людзям. Адкуль жа тут ўзяцца добрай мове? Вось і пішуць нашы газеты і часопісы: "прадстаячы", "маючыся", "кіруемы" і іншыя страхападобныя словы.

Тэатры, ставячы перакладныя п'есы па свайму, няграматна папраўляюць перакладчыкаў,

Змяняюць сказы і словы, бо, бачыце, беларускае слова "не гучыць". Беларускае слова гучыць, але яны не ведаюць яго, не імкнуцца зразумець сэнс і данесці яго да гледача. Назвы п'ес тэаты стараюцца даць так, каб яны былі не перакладзены, а толькі напісаны беларускімі літарамі. Дарэчы, тэатр оперы і балету ніяк не можа ўзбіцца на арыгінальны рэпертуар, пераклады лібрэта класічных опер, не робіцца. Спевакі, артысты філармоніі, чытальнікі занядбалі беларускі рэпертуар. Можна пачуць, што такога рэпертуару няма. Няпраўда, ёсць і песні, ёсць і танцы, ёсць і творы для чытання. Трэба працягнуць руку і ўзяць. А пачні шырэй выконваць, дык і рэпертуар пашырыцца, будзе больш ахвоты працаваць у ствральнікаў яго.

Студыя "Беларусьфільм" здымае фільмы на рускай мове, а потым дубліруе іх на беларускую. Такім шляхам нацыянальную кінематаграфію не створыш. Дарэчы, дубліраваныя фільмы не з'яўляюцца на экранах сталіцы, дзе і як яны ідуць, невядома.

Што ж мы маем у галіне народнай асветы: У вузах, тэхнікумах, школах выкладанне не вядзецца пабеларуску, наша мова выкладаецца кепска, так, што робіцца нялюбым прадметам. Беларускіх школ мала, яны размешчаны на ўскраінах, у горшых будынках, у горшых умовах, як бы сумысла каб малыя дзеці насельніцтва не маглі дабрацца туды. Нават у многіх школах вясковых мясцовасцей беларускага толькі і засталося, што паржавелыя шыльды над ганкам. Кажуць, што супраць беларускай школы з'яўляюцца пратэсты насельніцтва. Я і мае таварышы-літаратары атрымліваем таксама абразлівыя пісьмы за абарону мовы, за работу на ёй.Трэба добра разабрацца, хто гэта піша. Праўда, разбірацца цяжка, бо пішуць ананімы. Ці выражаюць гэтыя пісьмы сапраўдную волю і жаданне народа: Можа, сапраўды наш народ перастаў любіць сваю мову? Не, гэтага не было і не можа быць! Прыслухайцеся да жыхароў гарадскіх ускраін і рабочых пасёлкаў, да калгаснікаў: у іх вуснах гучыць чыстая, прыгожая беларуская мова. Нікому з іх і ў думку не ўпадзе пратэставаць супраць той мовы, на якой ён гаворыць з маленства. Але ёсць мяшчанская праслойка, якая грэбліва адносіцца да нашай мовы: яна мае ўплыў на недастаткова развітых асоб. На жаль, прыслухоўваючыся да голасу гэтага мяшчанства, і некаторыя людзі з органаў народнай асветы пачынаюць імкнуцца ліквідаваць і беларускую школу і наогул выкладанне мовы ў ёй. Але не волю народа выконваюць яны, блізарукія. Пратэставаць супраць роднай мовы, з аднаго боку, могуць людзі па неразуменню, а з другога – нашы ворагі, ворагі нашай савецкай рэчаіснасці, ворагі дружбы народаў. Наогул, недастатковая ўвага да мовы дае матэрыял для плётак і інсінуацый нашым замежным ворагам і іх паслугачам – беларускім нацыяналістам.

У чым жа прычына сягонняшняга становішча з мовай?

У пэўны час – ці трэба тлумачыць, калі і чаму гэта было? – вялікая група інтэлігенцыі перастала карыстацца сваёю мовай. Абазвацца па-беларуску тады – значыла зарабіць ярлык нацыяналіста.



Прашу разумець мяне правільна. Партыя вяла справядлівую барацьбу з буржуазным нацыяналізмам, ускрываючы шкоднасць і карэнні гэтага зла. Я маю на ўвазе іншае, а іменна – тыя нездаровыя з'явішчы, у выніку якіх значная колькасць партыйнай і савецкай інтэлігенцыі рэспублікі была бязвінна рэпрэсіравана. Дык вось, баючыся быць пакаранымі без віны, людзі пакідалі гаварыць па-беларуску, а потым, натуральна, пакрысе і забывалі мову. Гэтак было са старэйшымі. Моладзь, падрастаючы, пачала ўжо нігілістычна адносіцца да мовы: нашто яе вывучаць, калі яна не мае практычнага прыстасавання, не ўжываецца для выкладання, для перапіскі, не гучыць не сходах...

На жаль, не было зроблена ніякіх крокаў, каб папраўіць гэты крэн ад свае мовы. Вымушаны выпадковымі і нездаровымі абставінамі адыход інтэлігенцыі ад беларускай мовы пачаў няправільна разумецца, як, нагул, нелюбоў да яе народа, нежаданне ёю карыстацца. З гэтага неразумення і вынікла тое, што ўжыванне беларускай мовы паступова змяншалася.

Ці не выступаю я такім чынам супраць ужывання і пашырэння рускай мовы? Не. Руская мова- гэта шырокая брама ў культуру рускага народа, народаў нашай Радзімы і ўсяго свету. У маладосці мяне выхоўвалі Пушкін і Крылоў, Дабралюбаў і Чарнышэўскі. У сталыя гады – Ленін, Горкі і савецкая літаратура. Мільёны маладзейшых людзей нашай рэспублікі назавуць гэтых самых настаўнікаў. Руская мова – родная нам, яна – неад'емнае багацце беларуса. Кожны з нас абавязан добра ведаць рускую мову, яна павінна давацца дзіцяці змалку, выкладацца лепей, чым цяпер. Бо няма чаго граху таіць, сапраўднага ведання рускай мовы ў рэспубліцы няма яна перакручваецца і калечыцца. І гэта мне таксама рупіць і баліць, як перакручванне і калечанне мовы беларускай.

Ці не даволі развàжаць і перайсці да канкрэтных прапаноў? Становішча мовы ў рэспубліцы патрабуе паляпшэння. Я не думаю аб нейкіх адміністрацыйных загадах, смешна было б беларусізаваць беларускую рэспубліку. Усю справу можа вырашыць добры прыклад. Лягчэйшым за ўсё іншае мне здаецца такі шлях. У нас праводзіцца шмат рэспубліканскіх нарад, урачыстасцей, святкаванняў. На іх выступаюць з дакладамі адказныя работнікі, якія ведаюць беларускую мову. Вось няхай бы гэтыя даклады рабіліся па-беларуску. Гэта задавала б тон і паказала павагу да мовы з боку кіраўніцтва рэспублікі. Добры прыклад пярэйдзе ў вобласць, а затым і ў раён. А то ж сапраўды нецікава атрымліваецца, што сакратары райкомаў і старшыні выканкомаў гавораць з народам не на яго мове. Мне думаецца, што такім шляхам можна дасягнуць большага кантакту і ўзаемаразумення.

Другое. Такія установы, як Міністэрства культуры, Міністэрства асветы, могуць і павінны весці сваю работу па-беларуску. Калі беларускаю моваю загавораць міністры і іх шматлікія наменнікі, пачнуць праводзіць на гэтай мове паседжанні, пісаць, дык можна мець пэўнасць, што справа пойдзе на лад.

Само сабой зразумела, што ніякай цяжкасці не складзе і карыстанне мовай у творчых арганізацыях мастакоў, кампазітараў, у тэатрах. Укараненне мовы на вытворчасці зробіць уплыў на ўкараненне яе ў навучальных установах. Выкладанне самой мовы і асноўных прадметаў на ёй справа не цяжкая. Кадры ёсць, падручнікі ёсць – трэба толькі паваротлівасць Міністэрства, вядома, што колькасць беларускіх школ павінна быць павялічана і ўмовы ў іх павінны быць добрымі.

Я не майстар рабіць прапановы, іх трэба пашырыць і паглыбіць. Аб усім гэтым неабходна добра і ўважліва памеркаваць. ЦК знойдзе адпаведныя метады і сродкі. Пачаў жа я гэтую гаворку таму, што адчуваю гэта сваім абавязкам перад партыяй і народам.

25.05.1956 г.



Погляд-роздум

# Рускамоўным "дуплетам" – па шыльдах на вуліцы

За апошнія некалькі гадоў у Слуцку на галоўных вуліцах – Леніна, Капыльскай, Багдановіча, Чэхава – рэкламная тапаніміка прыкметна абнавілася, набыла болей кідкае, на еўрапейскі манер, аблічча. Шыльды і вокны – вітражы на беларускай мове з'явіліся на самым буйным універмагу "Слуцк", на магазінах "Крыніца", "1000 дробязяў" (на апошнім цешаць вока плакацікі над уваходамі "Калі ласка, запрашаем"), на гастраномах №№ 18, 19, 58. Вось, бадай, і увесь набор навізны моўнага кірунку. Затое не праявілі аніякай павагі да роднага слова кіраўнікі Дома быту – там шыльды, рэклама над уваходамі, на вокнах – спрэс рускамоўная з чатырох бакоў гэтага масіўнага двухпавярховага будынка. І на такога ж памеру "Доме торговли" на гарадскім рынку аналагічная карціна. Там жа рускамоўныя шыльды над новымі кавярнямі "Бистро", "Солнышко", на сталовай і на ўсіх гандлёвых шапіках.

Але вернемся ў цэнтр горада, які часцяком наведваюць госці не толькі з суседняй Расіі, але і з далёкага замежжа.

Даўно "прыжыліся" і застаюцца нязменнымі, рускамоўныя, шыльды на гастраномах №№ 14, 46, на ўсіх магазінах у жылых мікраёнах вакол трох былых вайсковых гарадкоў, што нядаўна расфармаваліся. Ці не таму і на ўсіх без выключэння прыватных крамах – "Легион", "Наташа", "На Серпуховской" (па назве вуліцы), "Мини-кафе" (пералік гэты можна было б падоўжыць), пры іх адкрыцці начапілі рускамоўныя шыльды і распісалі вокнавую рэкламу – быццам родная мова і не дзяржаўная! Ды і хто напамінаў іх уладальнікам, што жывуць яны не ў Калузе ці Разані, а ў Беларусі? Што казаць пра прыватныя крамы, калі на буйнейшым у цэнтры горада, у ста кроках ад Дома Саветаў, двухпавярховым "Доме торговли" абедзве масіўныя шыльды, адна – над уваходам, другая –, на даху, вылісаны мятровымі літарамі па-расейску. Больш таго, на фасадзе гэтага двухпавярховага будынка "тварам" да вуліцы Леніна глядзіцца маляўнічае пано памерам 3 х 5 метраў з запрашэннем... павалагодску – "Добро пожаловать". Хоць спрадвеку, з часоў Літоўска-беларускага княства, гасцей віталі ласкава-цёплым "Міласці просім", "Сардэчна запрашаем", "Калі ласка, у хату". Праўда, гучыць дабрэй, сардэчней, па-свойску?

Можна ўявіць сабе, што падобнае "пожаловать" магло б паявіцца недзе ў Польшчы, у Літве ці на Украіне? Ды да дырэктара таго магазіна там адразу ж прыйшоў бы натоўп абураных людзей і запатрабаваў прыбраць чужамоўнае запрашэнне,. А ў нас людзі праходзяць міма з абыякавым выглядам.

Нікога з беспрацоўных у горадзе не непакоіць і тое, што рэгіянальны цэнтр занятасці насельніцтва, які атабарыўся таксама у цэнтры, над уваходам вывесіў аж тры рускамоўныя шыльды! Адна – адлітая з металу, другая побач – на белай панелі выпісана сінімі аршыннымі літарамі, трэцяя, ніжэй, над дзвярмі, меней кідкім шрыфтам з распісаннем часу прыёму наведвальнікаў. Не кажу ўжо пра ўнутраную на дзвярах кабінетаў тапаніміку – яна, як і ўсюды, спрэс рускамоўная. На напамінак дырэктару, што тут зневажаюць нашу родную мову, адказ быў такі: і шыльды, і рэкламу ім навязалі з Менскага цэнтра. А вось самі нешта паправіць, замяніць хоцьбы адну з трох шыльдаў – пабойваюцца.

У гэтым масавым грэбаванні ўсяго свайго нацыянальнага, віна не толькі ўладных структур, хоць і ад іх многае залежыць. Кожны з нас, і не толькі случчан, вінаваты ў гэтай абыякавасці да сваіх каранёў, продкаў, да лёсу роднай мовы, што апынулася на краі вымірання.

*Мікола Кутнявецкі, г. Слуцк.*

# Угодкі Зоські Верас у Вільні

*"Зоська верас! Ах, Зоська Верас,*
*Вы утрымалі зямную вось..."*
*("Зяленыя клопаты" Сяргей Панізнік)*

Напрыканцы верасня грамадскасць Вільні адзначала 110 угодкі Зоські Верас (Людвікі Сівіцкай –Войцік). У Таварыстве Беларускай Культуры адбылася імпрэза. Пра легендарную пісьменніцу, якая была сведкай падзей цэлага мінулага стагоддзя, расказала яе дачка Галіна Войцік – Луцкевіч. З. Верас пражыла доўгае, багатае на цікавыя падзеі і сустрэчы жыццё, з іх – 68 у Вільні, горадзе, які так і не стаў для яе родным, хоць тут яна зрабіла вельмі шмт на ніве беларускай культуры і пакінула пасля сябе добрую памяць. У 1926 г. яна выйшла замуж за рэдактара беларускіх газет, сама выдавала часопіс для дзяцей "Заранка"", аб якім Арсень Ліс у "Кантактах і дыялогах" напісаў, што яна ("Заранка") асвяціла яго беднае на кнігу дзяцінства, пасля пад яе рэдакцыяй выйшла некалькі нумароў часопіса "Прамені". Калі ў 1944 годзе была закрыта Віленская беларуская гімназія, а ў 1945 – ліквідаваны музей імя І. Луцкевіча, замерла і беларускае жыццё ў Вільні Наступіў прыяд "літаргічнага сну" і так яна яго называла. Нішто не магло запоўніць яе былога актыўнага і творчага жыцця. У 1961 годзе гэтае жыццё абудзіў малады аспірант Арсень Ліс, які працаваў у віленскіх архівах. Пасля яго ў "лясную хатку" пацягнуліся, як у пілігрымку: вучоныя, пісьменнікі, журналісты, студэнты, школьнікі: Мастакі пісалі яе партрэты, паэты – прысвячалі вершы. Прагучалі яны і на літаратурнай вечарыне ў ТБК, Маргарыта Стральчэня -- Р. Барадуліна "Бяседа", Л. Мілаш – верш С. Панізніка "Зямныя клопаты". Госцем быў вядомы даследчык беларускай літаратуры Уладзімір Содаль, якому верасьнёўскімі днямі споўнілася 65, прысутныя павіншавалі яго з гэтай нагоды, а ТБК зрабіла падарунак, запрасіўшы яго ў Вільню на святкаванне ўгодкаў Зоські Верас, да якой ён, таксама завітваў і з якой доўгі час ліставаўся. Ён дапоўніў аповед Галіны Антонаўны цікавымі звесткамі, асабліва для моладзі прачытаў урыўкі з лістоў, а іх яна атрымоўвала ў год больш 600, было б цікава для даследчыкаў, каб яны былі выдадзены асобнай кнігай. Успаміны З. Верас часткамі друкаваліся ў ЛіМе, беларускіх часопісах, апошнія – пра старую Гародню, горад, які яна любіла, В. Бакаў назваў цудоўнымі. Пра яе зняты фільм, аб ёй успаміне ў сваёй апошняй кнізе С. Шарэцкі "Іх лёсы звязаны з Вільняй". Напрыканцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя, яна стала тым агеньчыкам", з якога разгарэлася полымя. Ланцужком пацягнулася беларуская інтэлігенцыя Вільні ў "лясную хатку" па парады, побач жыве жанчына з фенаменальнай памяццю, якая ведала М. Багдановіча, Зм. Бядулю, Ядвігіна Ш. і многіх другіх дзеячоў беларускага адраджэння. Яна ўжо слаба чула, засталіся сшыткі з пытаннямі. Пашчасціла і мне наведаць "лясную жатку", пабачыць Зоську Верас. Здавалася ніколі не згасне гэты агеньчык.

І ў беларускай школе імя Фр. Скарыны адбылася імпрэза, прысвечаная пісьменніцы, вучні 10 класа падрыхтавалі праграму, у якой гучалі вершы і Зоські Верас і прысвечаныя ёй (кіраўнік Э. Шукевіч), выступа Г. Войцік–Луцкевіч, віленскі мастак Алег Абланскі дапоўніў аповед уражаннямі ад сустрэч. Памерла З. Верас 8 кастрычніка 1991 г., спачатку, 13 траўня 1990 г. згарэла "лясная хатка". Пахавіны сталі сапраўднай маніфестацыяй беларускасці. Праўнуку яе было тады 5 гадоў, цяпер – 17. Ён запомніў шмат людзей і бел-чырвона-белыя сцяжкі. Пахавана яна на Панарскіх могілках, разам з сынам. Яна жыве ў памяці тых, хто яе ведаў, да яе магілы не зарастае сцежка.

*Леакадзія Мілаш, г. Вільня.*

# Легенды ажывуць

Праект Арыны Вячоркі "Легенды Вялікага Княства" пры падтрымцы БМАgroup набывае новае дыханне – гэта серыя канцэртаў старадаўняй музыкі самых папулярных і вядомых беларускіх музыкаў. Штомесяц на базе Рэспубліканскага палаца культуры ветэранаў аматары сярэднявечнай музыкі атрымаюць магчымасць не толькі паслухаць музыку, але і пагаварыць са сваімі улюбёнымі выканаўцамі. Таксама можна абмеркаваць праблемы апрацоўкі і стылізацыі гістарычных мелодыяў, спосабаў іх выканання. Акрамя гэтага слухачы змогуць прагаласаваць за найлепшую капэліцыю вечарыны як вартую для новай музычнай зборкі "Легенды – 2".

Месца правядзення: Рэспубліканскі палац культуры ветэранаў, вул. Я. Купалы, 21.

Білеты прадаюцца ў касе Палаца і ў распаўсюднікаў (метро).

Даведкі па тэлефоне: 8-029-6-490-888 (Віталь)

Пачатак канцэртаў – 18.30

**Папярэдні расклад канцэртаў –**

**29.10.02** – Юбілейная вечарына – трохгоддзе гурта "Стары Ольса" (новыя творы, адказы на пытанні, сярэднявечныя танцы)

**26 лістапада** – "Музыка Літвы і Кароны". Хор Унія.

**29 снежня** – Старадаўнія спевы, канты. Гурт "Guda", "Капэла Алеся Ласа", салістка Вольга Емельянчык (Полацак).

**28 студзеня** – Творчая вечарына Алеся Журы, Іны Перасецкай і гурта "Artes liberalis".

**26 лютага** – "Музыка замкаў і палацаў". Лютніст Валеры Дубнавіцкі (Пінск), квартэт "Кантраданс" (Баранавічы).

**25 сакавіка** – "Старадаўнія гімны і гістарычная песня".

**22 красавіка** – Еўрапейская танцавальная музыка. Вечарына, прысвечаная Дню Святога Патрыка.

**20 траўня** – арганны канцэрт.

# "Біблія для каханай"

5 лістапад 2002 г. у Палацы дзяцей і моладзі адбылася вечарына паэзіі і песні Леаніда Пранчана "Біблія для каханай". На ёй прысутнічалі сябры – паэты Леаніда Пранчака, вучнёўская моладзь з педкаледжа і школ горада і нават прыхільнікі таленту паэта з Нарвегіі. Распачалася сустрэча з цёплых слоў вядоўцы вечарыны Ірыны Марачкінай пра Леаніда Пранчака і яго яркую, самабытную паэзію. Паэт чытаў свае вершы: "Цёпла і светла мне", "У гэтым горадзе чужым", "Цёмнай ноччу бакал прыгубі" і інш. Адбылася прэзентацыя кнігі "Біблія для каханай", якая прысвечана жонцы паэта.

Шмат расказваў Леанід Пранчан пра сябе і свой радавод: хто быў яго дзед, чаму паехаў у Амерыку і зноў вярнуўся.

Цёплы каларыт у атмасферу сустрэчы ўнеслі гульні, з гумарам праведзеныя аўтарам. Асабліва гэта спадабалася малодшым дзецям, якія з ахвотай выходзілі на сцэну, чыталі жартаўлівыя вершы з кніжак Леаніда Пранчана, спявалі песні па-беларуску.

Прыгожа аздобіла вечарыну песня "Каля чырвонага касцёла"; якую па-майстэрску выканаў Алег Сёмін. Дарэчы, на словы Л. Пранчака беларускія кампазітары Л. Захлеўны, Э. Ханон, І. Лучанок і інш. стварылі звыш 200 песень.

На прыканцы вечарыны паэт раздаў лісткі паперы ўсім ахвотным, прапанаваўшы ім намаляваць партрэт "Пранчак смяецца". Лепшы з іх пойдзе ў новую кніжку паэта, якая ў хуткім часе пабачыць свет

На працягу ўсёй вечарыны ў зале панавала цёплая і дабразычлівая атмасфера. Прысутныя ў зале з ахвотай задавалі пытанні, цікавіліся жыццём і творчасцю Леаніда Пранчака.

І зноў гучала натхнёнае паэтычнае слова, гумар аўтара ўсіх зачароўваў.

А потым была вялікая чарга аматараў паэзіі Леаніда Пранчака па аўтографы.

Паэт літаральна нас зачараваў. І мы, навучэнцы педкаледжа № 1, запрасілі яго на сустрэчу ў нашу ўстанову.

*Ключнік Вольга, навучэнка МДПК № 1.*

# Баранавіцкія кавалі



Унікальнаю мастацкаю коўкаю займаюцца кавалі з Баранавічаў Аляксандр Адамчык і Іван Кітко (на здымку). Іх работы можна ўбачыць не толькі на вуліцах роднага горада і ў музеях, але і на выставах у польскім Кракаве і расійскім Санкт-Пецярбургу. Зараз майстры рыхтуюць работы для свята горада на Няве, куды яны запрошаны расійскімі сябрамі.

**Фота Рамана Кабяка, БелТА.**

# На радзіме продкаў Дастаеўскага

Ёсць такое сяло Дастоева на Беларусі, за 35 км. ад Пінска.

У гэтае сяло у 1897 годзе, у адрас святара айца Аляксандра Кульніцкага прыйшоў ліст ад удавы знакамітага пісьменніка Хвёдара Міхайлавіча Дастаеўскага – Ганны Рыгораўны Дастаеўскай, памёршай у 1918 годзе. Яна пісала: "Мой нябожчык муж казаў мне, што яго род паходзіць з гістарычнай Літвы, ад Пінскага маршалка Пятра Дастаеўскага, выбранага у Сойм у 1598 годзе і жыўшага у сяле Дастоева". Ганна Рыгораўна прасіла прыслаць ёй звесткі аб Дастаеўскіх з метрычных кніг мясцовай царквы. На жаль, гэты ліст не застаў святара ў жывых, але ж ён заахвоціў беларусаў да пошукаў продкаў пісьменніка.

Небеспаспяховыя пошукі выявілі, што родапачынальнікам Дастоеўскіх з'яўляецца Даніла Раманавіч Рціщчаў, беларускі праваслаўны патомны шляхціц. У кастрычніку 1508 года на ўзнагароду за свае ратныя вычыны перад Вялікім Княствам Літоўскім ён атрымаў маёнтак Палкацічы і вёску Дастоева. Ад гэтай вёскі ўжо яго дзеці пачалі іменавацца Дастоеўскімі, з націскам на "о". Дарэчы, сам пісьменнік заусёды вымаўляў сваё прозвішча з такім націскам.

Сын Данілы Рціщчава, Пётр Дастоеўскі, упамянуты жонкай пісьменніка ў лісце, у 1599 - 1628 гадах насіў выбарнае званне маршалка (прадвадзіцеля дваранства) Пінскага павету. Аднначасова ён быў членам Галоўнага Трыбуналу Вялікага Княства Літоўскага, дзе выступаў у якасці дэпутата ад Пінска і абараняў інтарэсы сваіх землякоў.

Сам пісьменнік успамінаў не раз пра сына Данілы Рціщчава - Стэфана, які быў Менскім гарадскім пісарам. Яму належаў маёнтак Сенніца, што пад Менскам. Цікава, што праз два стагоддзі гэтым самым маёнткам валодаў Дамінік Луцэвіч – бацька Янкі Купалы.

Яшчэ адзін сын Данілы Рціщчава – Хвёдар Дастоеўскі быў адвакатам. Ёсць гістарычны запіс пра тое, што ў 1572 годзе Слуцкі гарадскі суд разглядаў справу, у якой князь Курбскі з'явіўся ў суд у суправаджэнні адваката "свайго сябра, пана Хвёдара Дастоеўскага, земяніна яго Каралеўскай міласці павету Пінскага".

Усе сыны Данілы Рціщчава – Стэфан, Пётр і Хвёдар былі вядомы, як абаронцы праваслаўя і беларускай народнасці. Род Дастоеўскіх не перайшоў у каталіцтва, як гэта зрабілі многія беларускія шляхціцы. Яны пабудавалі на сяле праваслаўную царкву і ўсялякім чынам супраціўляліся паланізацыі.

Аднак, род абяднеў і напрыканцы 17 стагоддзя вымушаны быў пакінуць свой радавы маёнтак. Але ж, дзе бы ні жылі Дастоеўскія, яны не забывалі аб ім.

Дачка Х. М. Дастоеўскага – Любоў Хвёдараўна, якая памерла ў 1926 годзе ў Італіі, успамінала, што "недалёка ад Пінска да гэтага часу існуе мясцовасць пад назвай "Дастоева" - былы маёнтак Дастоеўскіх". Сам вялікі пісьменнік нарадзіўся ў Маскве і ў Дастоеве ніколі не быў. Але ж яго дачка Любоў Хвёдараўна ўспамінала, што яе бацька і дзядзькі часта гаварылі: "Мы, Дастоеўскія – літоўцы (ліцьвіны) па паходжанні". Як вядома, літоўцамі альбо ліцьвінамі ў той час звалі жыхароў Вялікага Княства Літоўскага, у тым ліку, і беларусаў. А беларускую мову, якая была дзяржаўнай мовай Княства, называлі ліцьвінскай, ліцьвіна-русінскай. (Дарэчы, вось што пісаў Адам Міцкевіч аб беларускай мове таго часу: "...на мове, якая называецца русінскай ці ліцьвіна-русінскай размаўляюць каля дзесяці мільёнаў чалавек. Гэта – самая багатая, самая чыстая гаворка, якая ўзнікла даўно і цудоўна распрацавана. У перыяд незалежнасці Літвы вялікія князі карысталіся ёй у сваёй дыпламатычнай перапісцы")

Сённяшняе Дастоева – гэта вялікае прыгожае сяло у Іванаўскім раёне Берасцейскай вобласці. У мясцовай школе існуе музей, у якім можна пазнаёміцца з мінулым сяла, якое датычыцца продкаў вялікага пісьменніка. Тут ёсць іх партрэты, выпіскі і копіі з архіўных дакументаў, перапіска. Да самай сваёй смерці меў кантакт з гэтым музеем унук пісьменніка – Андрэй Хвёдаравіч Дастоеўскі. Ён быў нястомным збіральнікам усяго таго, што датычылася жыцця і творчасці яго знакамітага дзеда.

Нажыль, цяпер не засталося нават падмурка царквы, што была пабудавана абаронцамі праваслаўя Дастоеўскімі. А на мясцовых могілках зруйнаваны з зямлёй іхнія магілы.

*Слава Ляхенчанка – сябар Дырэктарату Беларускага грамадска-культурнага клуба ў Сіднеі.*

# "Гартаючы старонкі жыцця"

*Як жыць,*
*дык жыць для Беларусі*
*А без яе, навошта жыць?"*
*Ларыса Геніюш.*

17 верасня споўнілася 80 гадоў Кастусю Шышэю – жаўнеру беларускага войска, "рагулеўцу". "Кастусь" у перакладзе з латыні азначае цвёрды, пастаянны. Нарадзіўся ён у вёсцы Краскоўскія Горы на Навагрудчыне. Ён з'явіўся на свет апошнім, у сем гадоў пайшоў у Шчорсаўскую школу. Вёска Краскоўскія Горы з'яўляецца, як бы працягам шырока вядомага сяла Шчорсы, тут калісці Іяхім Ігнацій Літавор Храптовіч заклаў паркавы ансамбль, пабудаваў цагляны палац, уніяцкую царкву і школу. Будучы высокаадукаваным чалавекам, ён стварыў у сваім маёнтку бібліятэку, якая тады лічылася лепшай у Еўропе, у якой на працягу некалькіх гадоў працаваў бібліятэкарам вядомы беларускі паэт Ян Чачот, нейкі час карыстаўся ёю Адам Міцкевіч. У такім маляўнічым кутку Беларусі нарадзіўся Кастусь Шышэя, там прайшло яго дзяцінства. Няма ўжо а ні таго маёнтка, а ні той бібліятэкі. Засталіся ўспаміны і прыцягальная любоў да роднага кутка. З дзяцінства цягнула вяскоўага, хлопца да навукі, уладкаваўся на вучобу у тэхнікум, але скончыць не давялося. 1 верасня 1939 г. пачалася другая сусветная вайна, а 17 верасня савецкія войскі занялі Заходнюю Беларусь. У 1943 годзе малады чалавек паведаміў Кастусю, што ствараецца Беларускае войска, патрэбны адукаваныя хлопцы, прапанаваў уключыцца ў справу. Атрымаў надзею ўздзельнічаць у патрыятычнай справе. 25 сакавіка 1944 года Беларускае войска прысягала "верна служыць свайму Беларускаму народу". Барыс Рагуля чытаў тэкст прысягі, а ўсе жаўнеры за ім паўтаралі. Два гады служыў у нацыянальным войску і змаганні за вольную Беларусь – самыя шчаслівыя ў сваім жыцці лічыць Кастусь Шышэя. Гэтыя гады пражытыя не дарэмна, за якія адпакутаваў у паўночных лагерах аж да 1954 года, потым яшчэ шэсць гадоў вольнага пасялення ў Інце, Комі АССР. У 1961 годзе К. Шышэя прыехаў у Вільню і адразу пачаў шукаць тут знаёмых беларусаў. Спачатку імі сталі Мікола Рулінскі з жонкай, Антон Шантыр. Апошні пазнаёміў з сваёй маці – вядомай беларускай пісьменніцай Зоськай Верас, і з мастаком Пётрам Сергіевічам. Кола сяброў шырылася – гэта і Леванід Кароль з жонкай, Лявон Луцкевіч з Галінай Войцік, кампазітар Паўла Каруза, пазней – Хведар Нюнька. Жывучы ў Вільні Кастусь Шышэя яшчэ раз перажыў бесчалавечнасць савецкай бюракратыі, калі ў 1972 годзе ў Англіі памерла яго маці, з якой разлучыўся ў 1944 годзе. У якія толькі інстанцыі ён не звяртаўся, а трэба было ў Вярхоўны Савет СССР. Вядома, пакуль даедзеш да Масквы, на паховіны ляцець у Англію ўжо было безсэнсоўна. Праз два гады там памерла і сястра Ганна, а ў 2000 годзе ў ЗША -- брат Саша. У 1989 годзе ў Вільні стварылася Таварыства Беларускай культуры, старшынём абраны Хведар Нюнька. Кастусь Шышэя з жонкай Леакадзіяй удзельнічалі спачатку ва ўсіх мерапрыемствах, цікавіліся адраджэннем беларускага жыцця, жыва рэагавалі на ўсе падзеі. Апошнім часам Кастусь больш бывае дома, стаў недамагаць, даюць знаць пра сябе хваробы. У 1997 годзе ў Вільні праходзіла сесія БНР, пасля доўгай разлукі спаткаліся жаўнеры Беларускга войска, прыляцеў з Канады і Барыс Рагуля. Нішто не змагло зламаць К. Шышэю, ні турмы, ні лагер. У лісце да свайго сябра ён піша: "Насунуўшаяся старасць, а з ёю надакучлівыя здравотныя недамаганні выбілі нас з абычнага нам штодзённага жыцця, з-за чаго мы цяжка перажываем. Аднак у жыцці кожнаму гэты прамежутак часу неабходна прайсці, дык пастараемся прайсці яго пачалавечы, спакойна і ганарова... Было бы крыўдна сёння, каб мы ў цяжкі для Бацькаўшчыны час сталі ў шэрагі варожых груповак нашай Радзімы... Лічу, што служачы ў эскадроне і нясучы вызваленчы наш белчарвона-белы штандар, - гэта гонар усіх нашых сяброў па змаганні...

Жыццёвы шлях наш цяжкі, але мы выстаялі, можам з любым гутарыць, не апускаючы вочы. Таму што крыўды за свае дзеянні, служачы ў эскадроне, нікому не зычым..."

Нялёгкае жыццё было ў Кастуся. У свае 80 гадоў у яго амаль няма сівых валасоў, гэта таму, што нічога не баяўся, на допытах чакаў смерці, як вызваленне з пекла, перажываў толькі за маці і сястру, каб іх не кранула "машына" НКВД. Ён да апошніх гадоў жыцця Ларысы Геніюш сябраваў з паэткай, з якой пазнаёміўся ў капальнях Інты ў 1949 годзе, шмат сяброў-аднадумцаў, цікавы суразмоўца, яго аповеды можна слухаць гадзінамі нестамляючыся, чэрнаць багаты жыццёвы досвед, вучыцца.

Шмат старонак кнігі "Іх лёсы звязаны з Вільняй" прысвяціў К. Шышэю яго зямляк Сямён Шарэцкі; назваўшы арлом. Мне пашчасціла пазнаёміцца з К. Шышэем у 1989 годзе, апошнім часам часта бываю ў яго дома, цікава "гартаць" кожную старонку яго жыцця і атрымоўваць асалоду. Яго юбілей адзначылі ў ТБК, павіншаваў старшыня Хведар Нюнька. А дзевяностагадовая Ефрасіння Данілаўна Падагіль прачытала на памяць паэму Янкі Купалы "Тарас на Парнасе" у гонар юбіляра спявалі беларускія песні:

*Леакадзія Мілаш, Вільня.*



У гасцях у Кастуся Шышэі. У цэнтры Леакадзія і Кастусь Шышэі з унукам Алесем

# Украінцы на фестывалі "Магутны Божа"

У Х-м Міжнародным фестывалі духоўнай музыкі "Магутны Божа", які праходзіў з 10 па 15 ліпня ў Магілёве, упершыню прынялі ўдзел калектывы з Украіны – хор нацыянальнай і духоўнай песні "Вірлі" са Львова (кіраўнік Раман Барэцкі), а таксама камерны вакальны ансамбль "Тысяча год музыкі" Палтаўскага педагагічнага універсітэту (кіраўнік Ірына Цэбрый). Разам з ансамблем выступаў камерны аркестр Палтаўскай абласной філармоніі пад кіраўніцтвам Аляксандра Абрамава.

Калектывы з Украіны пакінулі пра сябе цудоўнае ўражанне: вакальны ансамбль "Тысяча год музыкі" атрымаў дыплом "За лепшае выканне твору "Ave Mariya" (салістка Ганна Хіжко), а хор "Вірлі" стаў лаўрэатам фестывалю сярод парафіяльных хароў.

**Алена Тышкевіч.**

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 21. 10. 2002 г.
Наклад 2500 асобнікаў. Замова № 1933.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 489 руб., 3 мес.- 1467 руб.
*Кошт у розніцу:* 120 руб.